# Летапіс

## Т-ва Беларускае Школы

на-Грамадзкі і Літэратурны Месячнік



Вільня, Жнівень — Верасе

## АД РЭДАКЦЫІ.

Зноў прайшло два месяцы, пакуль мы набралі неабходную суму дзеля выпуску ў сьвет 3—4 нумару „Летапісу“.

Каб ня было затрыманьня ў далейшым мы зьвяртаемся з гарачай просьбай да сваіх сябраў і Беларускага грамадзянства падтрымаць „Летапіс“ зьбіранем ахвяр і складак на падпіску. Сьведамых беларусаў у вёсках і мястэчках дзесяткі тысяч; калі кажды дасьць па пяць грошаў, нават па аднаму грошу месяц, то мы поўнасьцяй забяспечым рэгулярны выхад у сьвет культурнага ...дзкага месячніка. Такая ахвяра па сілам кожнаму. Трэба хацець не на ...ол кі, каб пашыралася роднае друкаванае слова. Далучым ... свайго ...эргіі і волі, і выхад з цяжкага палажэньня заўсёды будзе знойдзены.

...жа просьбай аб падтрыманьні мы зьвяртаемся і да сваіх братоў-..., ...ходзяцца за межамі нашага краю, і маем надзею, што наш ...а — дойдзе да іхняга сэрца: яны зразумеюць наша кры... ...ці і прыйдуць з так патрэбнай нам дапамогай.

...асу не адгукнуўся на наш заклік, высылку „Летапісу

# ЛЕТАПІС

## Т-ва Беларускае Школы

**УЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК**

на: 3 зл. 60 гр. на год
1 „ 80 „ „ паўгода
асобны нумар 35 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ:
Вільня, Боніфратэрская 2—3

1 | Травень, 1933 г. | Год І


*Вільня. Травень 1933 г.*

Кожны працаўнік на ніве народнай адчувае вялікую патрэбу друкаванага слова. Асабліва востра адчуваюць гэта ўсе тыя, хто беспасярэдня сутыкаецца з цемрай і вядзе працу за пашырэньне сьведамасьці і пачаткавай веды сярод народных масаў на вёсцы.

Па шырокіх прасторах Бацькаўшчыны ад самых глухіх яе куточкаў нясецца вокліч: Дайце газэту, дайце часопісь, дайце кніжку!

І вокліч гэты так зразумелы і натуральны.

Узбуджаная сьведамасьць народная шукае задаваленьня сваіх духовых патрэбаў...

Пры нашым сучасным становішчы гэтыя патрэбы поўнасьцяй ня могуць быць заспакоены. Аднак мы павінны імкнуцца, хаця ў рамках сваіх маленькіх магчымасьцяў, да заспакаеньня таго духовага голаду, які пануе на вёсцы, шукаючы шляхоў, што лучылі-бы паміж сабою шчырых і сьведамых, але распыляных па ўсёй Заходняй Беларусі, ідэйна адданых культурнай працы адзінак.

Вось з гэтаю мэтаю пачынае выходзіць у сьвет наш „Летапіс".

Яго праграма?

Далейшую і шырэйшую праграму падкажа нам жыцьцё; бліжэйшая-ж — гэта праца нашага Т-ва, якое мае свае традыцыі, сваю гісторыю, вялікі культурны даробак на вёсцы і... вялікія страты. Усе гэтыя пытаньні парушаліс у „Бюлетэнях Т-ва", якія, да слова сказаць, выходзілі непэрыядычна, аднаднёўкамі. Нам жа трэба стала і упарта працаваць, каб лячыць цяжкія раны на целе сваёй арганізацыі, каб зрабіць магчыма большы ўклад у скарбніцу роднае культуры.

Цікавыя і багатыя зь[illegible] дзіць сваё мейсца на стар[illegible] нікі, сябры Т. Б. Ш., па[illegible] сылаць матэр'ялы для агульнай нашай часопісі і клапаці[illegible] аб тым, каб выхад „Летапісу“ ў сьвет ня меў перап[illegible] з прычыны браку матэр'яльных сродкаў.

Усіх сваіх сябраў, беларускую моладзь і грамадзянс[illegible] гэтым мейсцы заклікаем да цеснага супрацоўніцтва і д[illegible] трыманьня нашага „Летапісу“, як з боку маральнага, так [illegible]тэр'яльнага.

Маладым беларускім паэтам таксама знойдзецца [illegible] для іхных твораў на гэтых старонках.

---

*А. ГУРЛО.*

## *ДА ГУСЬЛЯЎ.*

*Іграйце гучна аб шчасьці гусьлі,*
*Радзеце, струны, акорды песень.*
*Жыцьцё зьвязала вас з Беларусьсю,*
*Яна-ж зьвязалась з сваёй прадвесьняй.*

*Што было ўчора няяснай марай,*
*Бяскрылым ўзьлётам, бязвольным ценем,*
*Сягоньня тое — уздым захмарны,*
*Сягоньня тое — парог хаценьня.*

*Травіцы шэлест і шэлест лісту*
*Ўжо баюць - кажуць другую казку,*
*Балота наша і луг імшысты*
*Абняты сёньня рукамі ласкі.*

*Адна аздоба — прастор узорны*
*Пад ласкай сонца, пад сьпеў вясеньні.*
*Іграйце, гусьлі, напеў задзёрны,*
*Уклаўшы ў струны маё натхненьне.*

*Я з вамі, гусьлі, радзіўся, вырас,*
*Я з вамі, гусьлі, блудзіў па сьвеце,*
*Шукаў я з вамі жыцьцёвы вырай, —*
*Затое песьню вы мне складзеце.*

*Такую песьню, каб сэрца сьцешыць,*
*Каб, стаўшы рана на постаць жніва,*
*Адну надзею ў грудзях прысьпешыць,*
*Што край мой родны жыве шчасьліва.*

# Папулярныя лекцыі стдуэнтаў беларусаў, чытаныя ў гуртkoх Т-ва Белар. Школы, Беластоцкага вокругу.

На пачатку мінулых калядных вакацыяў Беластоцкая Акружная Управа запрасіла студэнтаў Віленскага Унівэрсытэту М. Мілючанку, П. Першукевіча, П. Чэчку, і студ. Варшаўскага Унів. М. Орсу, прачытаць цыкль папулярна-навуковых лекцыяў. Прыймаў удзел у чытаньні таксама і сябра Т-ва В. Лукашык.

Лекцыі прачытаны на наступныя тэмы:

1) У гор. Беластоку 26-XII 32 г.: а) „Што мы павінны ведаць аб сусьвеце“, прач. П. Першукевіч і б) „Што мы павінны ведаць аб сьвеце“, прач. П. Чэчка.

2) У м. Міхалове 26-XII 32 г.: а) „Жыцьцё і творчасьць Я. Купалы“, прач. М. Мілючанка і б) „Жыцьцё і творчасьць Я. Коласа“, прач. М. Орса. Лекцыі чытаны ў сувязі з 50-мі ўгодкамі жыцьця нашых песьняроў з папярэднім уступам В. Лукашыка, на тэму: „Значэньне культуры і асьветы. ў жыцьці народаў“.

3) У в. Новая Воля 26-XII 32 г.: а) „Доля жанчыны на вёсцы“, прач М. Мілючанка і б) „Чалавек і хатняя жывёла“, прач. М. Орса.

4) У в. Тапільцы 30-XII 32 г.: а) „Разьвіцьце Беларускага адраджэнскага руху“, прач. М. Орса і б) „Што мы павінны ведаць аб сусьвеце“, прач. П. Першукевіч.

5) У в. Дзернякове: „Чалавек і хатняя жывёла“, прач. М. Орса.

6) У гор. Беластоку 2-I: „Цуды тэхнікі“, прач. П. Першукевіч.

7) У м. Гарадку 8-I: а) „Беларускі тэатр і яго грамадзкае значэньне“, прач. М. Мілючанка і б) „Разьвіцьце беларускага адраджэнскага руху“, прач. М. Орса.

8) У в. Залукі 9-I: „Доля жанчыны на вёсцы“, прач. М. Мілючанка.

9) У в. Валілы 9-I: „Аб застасаваньні тэхнікі на вёсцы“, прачытаў П. Першукевіч.

10) У в. Пяшчанікі 9-I: „Літэратура і яе грамадзкае значэньне“, прач. М. Мілючанка.

11) У в. Навасёлкі 9-I: „Аб хатніх жывёлах у гаспадарцы“, прачытаў М. Орса.

12) У в. Меляшкі 12-I: а) „Якуб Колас, як песьняр сялянства“, прачытала М. Мілючанка і б) „Жыцьцё людзкасьці і прырода“, прачытаў В. Лукашык.

13) У в. Белявічы 12-I: а) „Што ведаем аб акружаючым нас сьвеце“, і б) „Жыцьцё людзкасьці і прырода“, прач. В. Лукашык.

14) У в. Рушчаны 13-I: „Янка Купала, прарок Беларускага адраджэньня“, прач. М. Мілючанка.

15) У в. Зачэрляны 13-I: „Народ і асьвета“, прач. В. Лукашык.

16) У в. Касьцюкі 13-I: „Патрэбы вёскі ў галіне тэхнікі“.

17) У в. Бацюты 14-I. „Культурна-асьветная самапомач сярод Беларусаў“, прач. В. Лукашык.

Апрача пералічаных, 23 студзеня прачытаў у Беластоку дзьве лекцыі грам. Р. Шырма на тэмы: „Што такое літэратура і дзеля чаго яна патрэбна“ і „Беларускія народныя песьні“.

Сяляне горача віталі лектароў, просячы зноў прыехаць, не забываць іх. Амаль пасьля кожнае лекцыі закідалі лектароў пытаньнямі. На кожнай лекцыі, ці ладзілася яна ў вялікай салі, ці ў звычайнай вясковай хаце, слухачоў было поўна. Прыходзілі сяляне за 10 — 12 клм. У некаторых вёсках прасілі даць ім сталага лектара: „Мы ўжо яго і карміць, і апранаць, і як найлепей даглядаць будзем“, — казалі сяляне. У часе лекцыяў відаць было вялікае зацікаўленьне слухачоў кожным словам. Прыходзілі паслухаць нават 70-ці летнія жанкі і мужчыны. Першыя асабліва дзівіліся, як і некатарыя з малодшых жанчын, як гэта людзі, якія вучацца у горадзе, гутараць з імі па беларуску. Калі прыходзілася часамі заставацца начаваць, то скрозь стараліся сяляне, як найлепей прыняць і пачаставаць, просячы выбачыць калі што ня добра.

Па за лекцыямі студэнты наладзілі ў памешканьні Т-ва ў Беластоку вячэрнія заняткі для дарослых. Выкладалі наступныя прадметы: М Мілючанка — гісторыю беларускае літэратуры, В. Лукашык — гісторыю і беларускую граматыку, М. Орса—біолёгію, анатомію і прыроду і П. Першукевіч — матэматыку і фізыку. Заняткі адбываліся амаль месяц.

Па ініцыятыве студэнтаў і пры іх дзейнай дапамозе быў наладжаны ў Беластоку на першы дзень праваслаўных каляд спэктакль. Адыгралі: „Змагары за ідэю“, драму ў 4-х актах Тагабочнага.

---

**М. ХВЕДАРОВІЧ.**

(14)

# Досьвітак.

Бачу родныя узвышшы
Стройных волатаў лясоў,
Як бы нехта ўзоры вышыў
Беларускіх паясоў.

А ўнізу пасланы долы,
Расьцьвіла чарэмхі вець;
Ходзіць, ходзіць вецер голы —
Забіяка па траве.

Нагінаюць ніц галовы
Ў росах чыстых васількі.
І здаецца шэпчуць словы
Лозы ціха ля ракі.

Хто я тут і кім пасланы
Рваць галовы васількоў?
Разьлівае сьвежы ранак
Па даліне малако.

Не парушу, ня ўстрывожу
Дзіўных мараў харашства,
І чаруе і варожыць
Шаўкавістая трава.

Згінуў холад ночы мглістай,
Песьні працы у сяле.
На траве крыштальна-чыстай
Мой застаўся чорны сьлед.

# Хроніка Т-ва Бел. Школы.

## КОСАЎСКІ ПАВЕТ.

*** На **Агульным Сходзе** гуртка Т-ва ў *в. Байкі*, Ружанскае вол., адбыўшымся 18-XII 1932 г. пастаноўлена: 1) адчыніць пры гуртку Беларускія вечаровыя курсы для дарослых непраматных і малаграматных, 2) арганізаваць сэкцыі: адукацыйную, драматычную, і музычна-харавую. На сходзе прынята рэзалюцыя з дамаганьнем школы ў роднай мове, ўважаючы гэта за найважнейшую справу „жыцьцёвага інтарэсу беларуса-селяніна". Гурток налічвае 80 сяброў.

*** **Агульны Сход** г-ка ў в. *Бярэзьніца*, Ружанскае вол., 18-XII 1932 г. прыняў пастанову: адчыніць бібліятэку-чытальню, арганізаваць пры гуртку драматычную і музычна-харавую сэкцыю і дамагацца беларускай школы.

*** **Управа гуртка** Т-ва Бел. Школы ў *в. Варанілаўцах*, Ружанскае вол., паведамляе, что 29-X 32 г. на сходзе была прынята пастанова залажыць курсы для дарослых. Заняткі на курсах распачліся 15-XII 1932 г. На курсах вучыцца 16 асоб, скончыўшых 4 кл. пачаткувую польскую школу, якія маюць вялікае жаданьне навучыцца чытаць і пісаць па беларуску.

*** **Спэктакль, які не адбыўся:** Дня 10-XI 32 г. Управа Міхновіцкага г-ка, Івацэвіцкае вол., зьвярнулася да Косаўскага Старасты за дазволам зладзіць у вёсцы спэктакль на карысьць бібліятэкі. Меліся ставіць „Дзядзьку Якуба" і „Пакой ў наймы". Заплацілі 11 зл., атрымалі дазвол і вельмі ўсьцешыліся, бо перад гэтым прасілі 2 разы і ўсё даставалі адмоўны адказ. Па атрыманьні дазволу было замэльдавана на пастэрунак паліцыі ў Івацэвічах, якая 17-XI м. г. рабіла агледзіны памешканьня, дзе меўся быць спэктакль. На жаль, паліцыя забараніла, бо на салі былі толькі адныя дзьверы.

Згінуў урачысты настрой у сябраў, яго зьмяніла цяжкае панурае ўражаньне. Толькі працы, энэргіі і бяссонных начэй было патрачана і ўсё гэта надарма!

Аднак камандант пастэрунку 18-XI у вечары сказаў, што ладзіць спэктакль можна, ніхто ня будзе ставіць перашкодаў. Усе сэрдэчна былі ўдзячны камэнданту за гэта. Закіпела праца, як у вульлі: хто лаўкі ставіць, хто сцэну клеіць, хто майструе заслону, а хто вянкі вешае. Дужа прыгожа была удэкаравана сцэна, лаўкі роўненькімі радамі чакалі глядзельнікаў. За дзьве гадзіны перад пачаткам прыехаў пастэрунковы і стаў пісаць пратакол, што ў салі адныя дзьверы, дзеля гэтага спэктакль ня можа адбыцца. Пачалі прасіць: „Паночку, то-ж пан камэндант дазволіў"! —„То я не дазваляю", быў адказ. Вынік гэтага такі: 12 зл. расходаў і 11 зл. за дазвол.Вось і зарабілі на кніжкі для бібліятэкі. Глядзельнікаў сабралась цаўнюсенькая саля; па іхняй просьбе быў дадзены дазвол на танцы. Тут ужо адныя дзьверы перашкодай не зьяўляліся.

Нарэшце гурток рашыў зладзіць спэктакль у м-ку Івацэвічах у памешканьні стражы агнёвай, за якое згадзіўся заплаціць 20 зл. за вечар. Аднак-жа калі прышлося аканчальна разлічацца, то прэзэс стражы, ён-жа і пісар гміны, сказаў: „Для вас ня можна, адмоўлена".

Так выглядаюць на практыцы варункі для культурнай працы сярод беларускага сялянства ў некаторых куточках нашае Бацькаўшчыны.

*** **Справаздача Косаўскай Акружнай Управы.** Адбыліся беларускія спэктаклі: дня 8 студзеня ў вёсцы Бярэзьніцы чатыры сэансы падрад, прысутных было 500 асоб, даходу 94 зл. 40 гр., у в. Квасавічах у 2 сэансы, даходу 29 зл. 90 гр. і ў вёсцы Блізной, скуль справаздача аб даходзе неатрымана; 12 лютага г.г. адбыўся спэктакль у в. Байках, прысутных было каля 150 асоб, даходу паступіла 24 зл. 50 гр.; 19 лютага у в. Буцьках у 2 сэансы.

15 лютага Акр. Упр. прасіла Косаўскага Старасту дазволу на спэктаклі у в. Бярэзьніцы і ў філіі у в. Доўках; атрыманы адмоўны адказ. У сакавіку зноў падавалі заявы на спэктаклі у в. Байкі, Бярэзьніца і Доўкі, таксама адмоўлена.

13 лютага Косаўскі Стараста выкрасьліў з лісты рэестру наступныя гурткі: у вёсках Галік, Харошча, Куляшы, Рацькевічы, Була, Быч, Серадава, Сакоўцы, Разьмеркі і Хадаркі, *Косаўскае воласьці*; у вёсках Любішчыцы, Жытлін, Воля, Уласаўцы, Аляксейкі, *Івацэвіцкае вол.*; Увёсках Еськаўцы, Куляны і Кавалі, *Ружанскае вол.*; У в. Совін, *Пескаўскай вол.* і ў в. Глінна, *Сьвята-Вольскай вол.* Прычыны не ведамы, таксама, як непададзены прычыны забароныладжаньня спэктакляў.

Агульны сход, прадстаўнікоў гурткоў Косаўскага павету, які быў вызначаны на 18-IV г. г. забаронены.

На зложаныя Старасьце заявы на легалізацыю гурткоў ў в. в. Панкі, *Івацэвіцкае вол.*, Еськаўцы і Юндзілаўцы, *Ружанскае воласьці* адмоўлена з прычыны публічнага небезпячэнства.

Галоўная Управа просіць усіх сябраў і Управы гурткоў прысылаць дакладныя справаздачы аб сваей працы і падзеях, якія адбываюцца ў апошнія часы на грунце працы Т-ва.

## СЛОНІМСКІ ПАВЕТ.

*** Жыхары в. **Варонічы,** Міжэвіцкае вол. зьвяртаюцца ў Галоўную Управу з просьбай залажыць бібліятэку-чытальню. Гурток ў іхняй вёсцы істнаваў ад 1926 году да 5 чэрвеня 1932 г., г. зн. да таго дня, калі Наваградзкі Ваявода выдаў пастанову аб зачыненяні гуртка ў в. Варонічах па матывам пагрозы спакою і публічнай бяспечнасьці. Хочуць залажыць сябры гуртка хаця бібліятэку. Шчыра спачуваючы іхнім культурна-асьветным імкненьням, радзім парупіцца аб залажэньні новага гуртка.

*** Сяляне в. **Нагуевічы,** Дзярэвенскай вол. просяць парады, як залажыць гурток у сваей вёсцы. Дзеля таго, што Гал. Упр. ня мае дакладнага адрасу (ў пісьме не пададзена пошта) паперы на залажэньне гуртка пакуль што ня могуць быць высланы.

## ПРУЖАНСКІ ПАВЕТ.

*** **Залескі II** гурток, Рудніцкае вол. павялічыўся на 8 новых сяброў 15 студзеня г. г. адбыўся Агульны Сход гуртка, на якім выбраны новы загадчык б.-чытальні Язэп Хомюк. Павал Леўчук і Я. Хомюк, якія раней былі завешаны ў дзейнасьці за страту грамадзкага гонару, на гэтым Сходзе былі зноў прыняты ў лік правадзейных сябраў, дзеля таго, што паправіліcь і далі клятву быць шчырымі працаўнікамі на культурана-асьветнай ніве Т-ва. Маемасьць ліквідаванага Асавецкага гуртка, Селецкай воласьці, перадана Залескаму II гуртку, апрача радыё-апарата, зьвярнуць якога Т-ву камандант Селецкага пастарунку адмовіўся. Галоўная Управа зьвярнулась да Пружанскага Старасты аб уладжаньне гэтае справы.

*** **Хвалаўскі** гурток, Сухопольскай вол. дня 27 студзеня г. г. быў часова завешаны адміністрацыйнымі ўладамі, а цяпер зачынены Старастай.

Пры рэвізіі, якая трывала ад 10-ай гадзіны раніцы да 3-яй папалудні, знойдзены недакладнасьці фармальна-канцэлярскага характару ў дзейнасьці Управы гуртка. Пасьля рэвізі рэфэрэнт беспечэньства намаўляў сяброў гуртка, каб дабравольна напісалі заяву да Пружанскага Старасты аб ліквідацыі гуртка і бібліятэкі, ўзамен якое ён дасьць сваю бібліятэку „z pożytecznych książek“, а не такіх філёзофскіх, што трудна разумець. Аднак гурток на самаліквідацыю не згадзіўся. Атрымаўшы аб усім гэтым паведамленьне Галоўная Ўправа зьвярнулася да Пружанскага Старасты з просьбаю, аб узнаўленьні дзейнасьці гуртка. Адказу не атрымана.

Вёска Хвалава палажана недалёка Белавежскае пушчы ў адлегласьці ад горада Пружан кілямэтраў каля сарака. Ахвярнаю працаю Хвалаўскага гуртка вельмі многа зроблена дзеля асьветы сялянства ў гэтай вёсцы і акрузе. Бібліятэка-чытальня мела 228 кніг. За час ад 1 чэрвеня 1927 г., да 27 студзеня 1933 г. бібліятэка мела 1383 чытачоў. Стараньнем гуртка была адчынена утраквістычная школа. Праўда, ў мінулыя гады па беларуску ў гэтай школе вучылі па адней гадзіне ў тыдзень, адначасна ўва ўсіх аддзелах (пагаданкі), а цяпер вучаць толькі па польску. Законныя дамаганьні бацькоў беларускай мовы ў школе не дасягаюць мэты.

Гарачая зацікаўленасьць тэатрам ахалоджваецца адміністрацыйнымі забаронамі на ладжаньне тэатральных пастановак. Гурток налічвае цяпер 16 сяброў, пры залажэньні было 30. Многа выехала шукаць працы. У канцы справаздачы загадчык бібліятэкі, Андрэй Гвай піша нам: „Ад імя чытальні і яе загадчыка старага беларуса, 65 летняга, аджыўшага свой век, шчырая падзяка і прывітаньне працаўнікам на ніве роднае культуры, сябрам Галоўнае Управы“. Прымаючы гэтае прывітаньне, мы засылаем, слаўнаму беларусу, загадчыку Хвалаўскай бібліятэкі, глыбокае пажаданьне дачакацца яму тае шчасьлівае хвіліны, аб якой кажа паэт:

„І будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сягоньня плача дзед“

Адначасна можам паставіць яго 65 летняга, старага загадчыка прыкладам іншым, маладым, — як ахвярнаю адданасьцю працы адраджэньня і усьведамленьня нашага вясковага люду, так і вялікай акуратнасьцяй з якой ён нёс свае абавязкі.

*** У **Шэнеўскім** гуртку таксама, як і ў Хвалаве, адбылася рэвізія з прапановай сябрам з боку рэфэрэнта самаліквідаваць гурток і залажыць „koło młodzieży wiejskiej“. Сход Гуртка, які адбыўся 13-II г. г. на самаліквідацыю не згадзіўся, а запрапанаваў Управе направіць усе недакладнасьці канцэлярскай працы. Староста не чакаючы гэтае направы абвінавачвае Управу гуртка з арт. 262 і 3 красавіка г. г. зачыніў гурток зусім з пагляду на публічную небясьпеку. На пастанову Пружанскага Старасты зложана скарга ў Палескае Ваяводзтва, тым болей, што гурток карыстаўся вялікаю пашанаю цэлае акругі. Сяляне вёскі Шэні на сваім сходзе перадалі гуртку грамадзкі будынак (былая народная школа) пад Народны Дом і сядзібу гуртка. Сваімі тэатральнымі прадстаўленьнямі ў гор. Пружанах гурток не без пасьпеху канкураваў як з польскімі, так і з расейскімі вандроўнымі тэатральнымі трупамі,

## СЬВЕНЬЦЯНСКІ ПАВЕТ.

⁂ **Новы гурток** залажыўся ў в. Баране, Жукойненскай вол. з агульным лікам 12 сяброў, з якіх 10 мужчын і 2 кабеты, і 23 лютага г. г. зарэгістраваны ўжо адміністрацыйнымі ўладамі.

Пасьля рэгістрацыі прынята ў лік сяброў Т-ва і далучана да гэтага гуртка яшчэ новых 5 сяброў. 23 красавіка адбыўся ладжаны гуртком першы спэктакль-вечарына. Было адыграна: „Чорт і баба“, Аляхновіча і „Боты“ (з украінскага). Артысты-аматары выканалі свае ралі дужа добра. Дзеля таго, што першая вечарына так удалася, ўсе заахвоцілісь зладзіць на Сёмуху другую. Выбрана дзеля пастаноўкі пьеса Я. Купалы „Паўлінка“. На чарзе дня перад гўртком стаіць пытаньне адчыненьня бібліятэкі-чытальні. У чэрвені месяцы гурток маніцца зладзіць краязнаўчую экскурсію да Вільні. Цікавы пачын г-ка прыходзіцца толькі прывітаць.

Дня 23-III г. г. адбыўся першы Агульны Сход сяброў гуртка, на якім аднагалосна выбрана Управа гуртка ў наступным складзе: Старшыня — Клемэнс Стэповіч, сэкрэтар — Бэрнард Стэповіч і скарбнік — Станіслаў Стэповіч.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ.

⁂ **Беластоцкая Акружная Управа** складае падзяку студэнтам-беларусам Варшаўскага і Віленскага Унівэрсытэтаў: Орсе Мікалаю, Чэчко Пятру, Мілючанцы Марысі і Першукевічу Пятру за прачытаньня ў гуртках Т-ва 27 лекцыяў і вячэрнія заняткі з дарослымі пад час калядных сьвят.

⁂ Акружная Ўправа паведаміла адносныя ўлады аб тым, што неведамыя асобы падкідаюць нелегальную літэратуру сябрам Т-ва з мэтаю кампрамітаваць і правакаваць арганізацыю. Так, напрыклад, была падкінута нелегальная літэратура Язэпу Грэсю ў в. Пяшчаніках, які своечасна агледзіў гэта і перадаў на пастарунак паліцыі. Вось дзе крыецца адна з крыніц, адкуль бярэ пачатак легенда аб камунізме ў лоне Т-ва.

⁂ Акружная Управа выносіць шчырую падзяку гр. П. Кізевічу за яго карысную працу па арганізацыі курсаў для дарослых пры гуртках Т-ва, а Тапільскаму г-ку за дапамогу натураю сябрам Акр. Упр. у Беластоку.

⁂ **Новыя гурткі** заложаны ў мест. Мелейчыцы (17 асоб) і ў в. Сіські Заблудаўскае валасьці. (Ў апошняй лік сяброў не пададзены Акр. Управай)'

## ВАЎКАВЫСКІ ПАВЕТ.

⁂ **Акружны Зьезд.** Дня 12 сакавіка адбыўся Зьезд сяброў Таварыства Ваўкавыскага павету, на якім застала выбрана Акружная Ўправа. Аднак Ваўкавыскі Стараста дня 10-IV г.г. паведаміў, што працівіцца залажэньню Акр. Упр. Т. Б. Ш. у Ваўкавыску. Прычына — асабовы склад Управы, які не дае гваранцыі, што праца будзе вясьціся у рамах акрэсьляных статутам. На пастанову Старасты зложаны рэкурс Беластоцкаму Ваяводзе.

Дакладная справаздача аб Зьезьдзе з прычыны браку мейсца будзе зьмешчана ў наступным нумары „Летапісу“.

⁂ **Жыцьце і праца Ельцаўскага гуртка.** Мінулай восені гуртком была зроблена пастаноўка пьесы Тагабочнага „Змагары за ідэю“. Ня гледзячы на балота і цёмныя васеньнія вечары публікі сабралась вельмі многа; маладыя ішлі з ліхтарамі, старэйшыя ехалі фурманкамі са ўсіх акалічных вёсак. Перад падняцьцем заслоны саля ўжо была бітком набіта

народам. Як самая пьеса, так і нашы змагары за беларускую культуру, якія на сцэне без ніякага закіду выконвалі свае ролі, прыводзілі глядзельнікаў у захопленьне; сыпаліся воплескі, пахвалам ня было канца. Здавалась сабраныя, як галодныя, лавілі на ляту кожнае слова артысты. Відаць было, што гэтыя словы будзілі надзеяй, грэлі ад веку змучаныя душы, прыцягалі да сябе, як сонца кветку пасьля непагоды. Чалавек мімавольна пераносіўся ў няведамую краіну жыцьцёвых мар. Чуцён быў здаровы сьмех, знак агульнага задаваленьня. Чуткая працоўная беларуская душа, узварушаная абразком гаротнага сялянскага жыцьця, не магла стрымацца ад сьлёз, асабліва пры апошняй зьяве Калістрата і Антона. Пасьля спэктакля адбыліся танцы. Моладзь дзякавала нашым артыстам і прасіла ладзіць спэктаклі, як можна часьцей.

На каляды ставілі тры абразкі: „Антось Лата", Т. Гушчы, „Заручыны Паўлінкі", Ф. Аляхновіча і „Лекары і Лекі", А. Гаротнага. Народу сабралась, як ніколі; была моладзь з далёкіх за 15 клм. адлеглых вёсак. Увесь спэктакль прышлося адыграць два разы і кожды раз саля была перапоўнена народам. Падчас першага сэансу публічнасьць у суседніх хатах ждала на другі. Старыя людзі гаварылі, што даўней гэтак ішлі толькі на фэст да Жырава (Жыровіцкі манастыр каля Слоніма), а цяпер на беларускае прадстаўленьне. Усё гэта сьведчыць аб тым, што беларуская моладзь нарэшце ўгледзіла адзіны свой шлях, шлях культуры, які вядзе да палепшэньня нашага гаротнага, мужыцкага жыцьця.

Дня 22 студзеня г. г. Часта наша моладзь затрымоўвалась над пытаньнем, як прачытаць у гуртку навукова-популярную лекцыю. З браку сваіх культурных сілаў мы запрасілі з Вільні сэкрэтара Галоўнае Ўправы грам. Шырму, які прачытаў у нашым Народнам Доме дзьве лекцыі,—21-га студзеня на тэму: „Што такое літэратура і дзеля чаго яна патрэбна", 22 студзеня на тэму: „Песьня у жыцьці народаў і беларуская народная песьня". Ня гледзячы на вялізарную сьнежную завею зыйшліся сябры з усіх акалічных вёсак у адлегласьці чатыры, пяць і дзевяць кілямэтраў; ішлі па калені ў сьнягу, хлапцы і дзяўчаты, наражаючы жыцьцё на небясьпеку, толькі каб пачуць жывое роднае беларускае слова. Лекцыі далі нам вельмі многа. Першая — адчыніла вочы, як правідлова глядзець на літэратуру, разумець яе характар і значэньне, — другая—як трэба цаніць сваю народную песьню, як творчасьць мінулых пакаленьняў, праз якую можна адчуць і зразумець жыцьцё Беларускага Народу. Пасьля лекцыі гр. Шырма запісаў 15 арыгінальных мэлёдый з нашае вёскі. Доўга пасьля мы гутарылі і разьбіралі чытанае, прыпаміналі вялікую заслугу найлепшых сыноў Беларусі Якуба Коласа і Янкі Купалы, якія кінулі ў масы агнявыя іскры культурна-нацыянальнага адраджэньня, сяньня гэтыя іскры палаюць над Беларусьсю вялікім і яркім агнём. Чытаючы творы нашых паэтаў мы здабываем веру і глыбокае пераконеньне, што ніякая сіла ня можа спыніць адраджэнскага поступу нашага народу. Вельмі пожадана, каб гэткія лекцыі адбываліся часьцей.

Дня 26 лютага ставілі „На вёсцы", Ф. Аляхновіча і „Міхалку"—пераклад з польскага. Былі дэклямацыі вершаў. Пасьля спэктаклю адбыліся танцы. Агульнае зацікаўленьне, як заўсёды, было вельмі вялікае.

Дня 17 красавіка на другі дзень Вялікадня адыгралі „Апошняе спатканьне", У. Галубка. Наша драматычная сэкцыя не шкадуючы энэргіі ахвярна ідзе наперад. Бракуе толькі добрае дэкарацыі на сцэне. „Апошняе спатканьне" не дало глядзельнікам сьмеху — наадварот сьлёзы. Вельмі многа глядзельнікаў плакалі ад пачатку да канца спэктаклю. Калі адзін з артыстаў зьвярнуўся да аднае такое асобы, просячы выбачэньня за

сьлёзы, дык пачуў такі адказ: „О, не! Мы павінны дзякаваць усёй драматычнай сэкцыі і гуртку, што паказалі нам праўдзівых, шчырых змагароў нашага адраджэньня, палепшаньня нашага нялюдзкага жыцьця. Нашыя сьлёзы ня былі сьлязьмі роспачы, а радасьці, што ўсё-такі ёсьць людзі, якія не шкадуюць нават жыцьця для дабра Беларускага Народу".

⁂ **Раманаўскі гурток,** Ізабэлінскае вол. залажыўся пры 10 сябрах. Цяпер налічвае ўжо 27. Гурток распачаў сваю культ.-асьв. працу зьбіраньнем кніжак для бібл.-чытальні, а 20 сьнежня прыступіў да будовы дому пад сядзібу гуртка. Ужо зроблены зруб і пастаўлены кроквы, а такжа загатоўлены матар'ял на вокны, столь і падлогу. Будынак мае 14 мэтраў даўжыні і 6,5 мэтраў шырыні. Праца, дзякуючы энэргіі сябраў, ідзе хутка. Праўда некаторыя сябры ня зусім ахвотна выходзяць да працы. Але гэтая неахвота павінна хутка зьнікнуць, бо большасьць сябраў працуе з вялікім запалам і надзеяй на добры вынік іхняе працы. Асаблівай ахвярнасьцяй адзначылі сябе дзяўчаты нашага гуртка; калі хлапцы распачалі будову дома, то дзяўчаты ўзяліся дастарчаць мох для мшэньня сьценаў. Прышлося даставаць мох з багна, выдзіраць з пад сьнегу. За адзін раз прывязьлі на цэлы дом. Агульны запал да працы з боку сябраў гуртка дасьць пажаданыя вынікі ў галіне пашырэньня Беларускае Культуры і Асьветы.

⁂ **Сьвіслацкі** гурток распачынае сваю працу арганізацыяй бібліятэкі-чытальні і драматычнай сэкцыі. Бібліятэка залегалізавана 7-ІІ г. г. Загадчык бібліятэкі Юрахно Аяксандар. На сходзе г-ка 11-XII 1932 г прынята пастанова, згодна якой г-к не бярэ на сябе адказнасьці за чыны паасобных сябраў. Калі знойдзецца такі сябра, што будзе вясьці здрадніцкую працу на грунце Т. Б. Ш., то ён будзе выкінуты з ліку сябраў, як шкоднік арганізацыі.

⁂ **Праца гуртка ў Вялікіх Грынках** распачалася ў 1928 г. залажэньнем бібліятэкі-чытальні. На першае паведамленьне гуртка аб дазволе, на спэктакль на дзень 17-IV 1928 г. Ваўкавыскі Стараста даў адмоўны адказ з тае прычыны, што спэктакль меў адбыцца ў стадоле. Другі раз падалі паведамленьне на 22-IV тагож году, зазначаючы, што спэктакль адбудзецца а 2-ой гадзіне дня, каб не карыстацца агнём. Аднак і на гэты раз Стараста не даў дазволу матывуючы тым, што гумно ня мае „urządzeń technicznych". Усё гэта рабіла дужа прыкрае ўражаньне на сябраў, але надзеі ніхто не губляе. Галоўная Управа падае скаргу Беластоцкаму Ваяводзе, а Управа г-ка зноў паведамляе Старасту аб спэктаклі на дзень 22-VII 1928 г.; праграма спэктаклю: „Птушка шчасьця" і дэклямацыя. Чакаем... Вось прайшоў дзень пастаноўкі, а ад Старасты адказу няма. Спэктакль ізноў не адбыўся. На другі дзень, як на жарт, камэндант пастарунку прыносіць дазвол на спэктакль на дзень 22 жніўня. Маючы спознены дазвол, паведамляюць Старасту аб перанесеньні спэктаклю на 29 жніўня 1928 г. Нарэшце Стараста дазволіў. Такім чынам хоць з вялікім трудом але-ж удалося зрабіць перщы спэктакль.

Каб прыдбаць сродкаў дзеля закупу кніг у бібл.-чытальню, просім Старасту аб дазвол на скарбоначны збор грошаў на 16 і 19 жніўня ў м-ку Сьвіслачы і суседніх вёсках. Дазвол атрымалі, аднак збору да канца давясьці не ўдалося, бо 16-га каля 2-й гадзіны па паўдні паліцыя забрала зборшчыкаў на пастарунак і адабрала скарбонкі, матывуючы тым, што недакладна апячатаны. Скарбонкі былі адасланы ў Ваўкавыскае Стараства, аднак у хуткім часе іх нам вярнулі. Па аблічэньні ў 2-х скарбонках аказалася: у першай 36 зл. 74 гр., у другой 52 зл. 68 гр. На сходзе г-ка прынялі пастанову, каб кожны сябра ахвяраваў 5 зл. на закуп кніг.

Большасьць сябраў гэтую пастанову выпаўніла. У канцы 1928 г. на просьбу г-ка гмінная Рада ў Сьвіслачы прызнала 80 зл. на закуп беларускіх і польскіх кніг для бібіятэкі. Такім спосабам раздабываліся грошы на папаўненьне бібліятэкі-чытальні.

Вясною 1929 г. паведамляем Старасту аб пастаноўцы „Паўлінкі" і „Заручынаў Паўлінкі" у дзень 7 траўня, але Староста нічога не адказаў і толькі 18 чэрвеня зварочвае кніжкі. 14 ліпеня зноў паведамляем аб дазвол на пастаноўку тых самых пьес, але дазволу не дасталі. Такі самы лёс спаткаў просьбу аб пастаноўцы пьесы „Пан Міністар". Больш актыўныя сябры робяць яшчэ адну спробу ладжаньня спэктаклю, але супольнымі сіламі з Раманаўскім гуртком. Неяк дабіўшысь дазволу на 20-X 29 г адыгралі „Апошняе спатканьне" і „Лекары і лекі". Даходу атрымалі 59 зл. 50 гр. Пасьля гэтага праца гуртка замірае. Такі стан трывае да канца 1931 г. У лютым 1932 г. пастанавілі працы не кідаць і ні зашто не дапусьціць да самаліквідацыі гуртка, тым болей што ў іншых гуртках Т-ва праца ідзе добра. Адначасна даведваемся, што ў нашым павеце будзе новы Староста. Гэта падае надзею, што можа пераменяцца на лепшае адносіны да нашае працы. Пасылаем паведамленьне аб спэктаклю на 3-ці дзень Вялікадня. Атрыманы дазвол спатканы ўсімі сябрамі з вялікай радасьцяй. Спэктакль прайшоў вельмі добра і дадаў ахвоты і сілаў да працы ўсім сябрам. На 14 жніўня 1932 г. атрымалі дазвол на пастаноўку „Пана Міністра" і „Лекары і лекі". Спэктакль праходзіць вельмі ўдала. 18 верасьня ставілі „Суд", „Выбары Старшыні" і дэклямацыю вершаў; 9 кастрычніка „Апошняе спатканьне", „Чорт і баба" і дэклямацыі; 30 кастрычніка „Па рэвізіі" і „Модны Шляхцюк". Цана білетаў з прычыны эканамічнага крызысу была самая мінімальная, большая частка прайшла па 25 грошаў. Агульны даход з 5-х спэктакляў у 1932 годзе выносіць 124 зл. 20 гр.

У бягучым годзе 14 студзеня і 12 лютага зладжаны спэктаклі ў Малых-Грынках. Першы раз ставілі „Дзядзьку Якуба", а другі — „Пярэстую красулю" і „Зьбянтэжанага Саўку". Абодва разы выступаў хор і дэклямаваліся вершы. Ня гледзячы на непрыхільнае адношаньне Мала-Грынкаўскае моладзі, якую чамусьці болей цікавяць дзікія і пьяныя гульні, чым культ.-асьветная праца, публікі на абодвух спэктаклях было шмат. Цяпер падрыхтоўваецца да пастаноўкі пьеса „Змагары за ідэю".

Часам здараецца, што на грунце асабістых адносінаў паміж сябрамі паўстаюць непаразуменьні, якія ад'емна адбіваюцца на працы гуртка. Такія справы вырашае, прымаючы адпаведныя пастановы, Агульны Сход г-ка. Трэба зазначыць, што праца гуртка разьвіваецца вельмі памысна на карысьць абудзіўшагася ад векавога сну Беларускага Народу.

*** **Новыя гурткі.** У вёсцы *Гарбачы*, Сьвіслацкай воласьці, залажыўся гурток 9-I г. г. з агульным лікам 17 сяброў: 10 мужчын і 7 жанчын. На Агульным Сходзе, які адбыўся 22 студзеня прыняты пастановы: залажыць бібл.-чытальню, урэгуляваць складкі на культ.-асьвет. працу — аднаразова па 50 гр. з кожнага сябры, а ў наступныя м-цы па 30 гр. і зьвярнуцца ў Галоўную Управу аб высылцы ў крэдыт падручнікаў і кніг для бібліятэкі-чытальні. На другім Агульным Сходзе, які адбыўся 11 сакавіка, прынята пастанова адчыніць вечаровыя курсы для дарослых, заняткі на якіх будуць вясьціся па аўторкам, суботам і нядзелям ад 7-й да 10-й гадзіны вечара. На гэтым-жа Сходзе арганізована тэатральная сэкцыя, якая ўжо зладзіла тры спэкктаклі: 1) 17 красавіка — „Зьбянтэжаны Саўка", „Лекары і лекі" і „Пасланец", 2) 6-га траўня прышлося паўтарыць тыя-ж самыя пьесы,

3) 14 траўня — „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам“ і „Конскі партрэт“. На 4 чэрвеня пададзена аб дазвол на пьесу „Змагары за ідэю“. Памешканьне гуртка падчас прадстаўленьня бывае заўсёды перапоўнена, і ў народзе чуецца вялікае зацікаўленьне да нашага маладога тэатру. Вельмі пажадана было-б, каб прыехаў наш паважаны сябра Р. Шырма, для прачытаньня лекцыяў у нашай роднай мове.

*** У в. **Улезлы,** Ізабэлінскае вол. 24 лютага адбыўся Сход Улезлаўскага гуртка, на якім выбрана Управа: Старшыня — Безносік Іван, сэкрэтар— Шчыглінскі Міхал і скарбнік — Осіп Прохар. Адчынена бібліятэка-чытальня; бібліятэкар—Маланія Шчыглінская. Гурток налічвае 17 сяброў; 14 мужчын і 3 жанчыны.

*** Жыхары в. **Дарані,** Падароскай вол., у ліку 15 асоб прыслалі заяву на залажэньне гуртка ў іхняй вёсцы.

*** У **Нязбодзіцкі** гурток, Ялоўскае воласьці, залічана новых 4 сябры.

## ВЯЛЕЙСКІ ПАВЕТ.

*** Зложана заява на залажэньне гуртка ў засьценку **Мель,** Жойдзішскае вол. Падпісалі заяву 20 асоб: 18 мужчын і 2 жанчаны,

## СТАЎПЕЦКІ ПАВЕТ.

*** У в. **Ператоках** 3-Х 1932 г. залажыўся гурток. Аднак Стаўпецкі Стараста адмовіўся рэгістраваць яго, пакуль ня будуць спраўджаны некаторыя фармальнасьці адносна падпісаў закладчыкаў. Спраўджаньне цягнулася да 16-ХІІ 1932 г., у выніку якога ўсе сябры у Ператоках адмовілісь ад залажэньня гуртка.

*** У в. **Кожаве,** Жухавіцкай вол., паліцыя намаўляла закладчыкаў г-ка нашага Т-ва адмовіцца ад Т. Б. Ш. і запісацца ў Т. Б. А. Урэшце ім давалі для подпісу нейкую паперу, кажучы: „Калі вы хочаце вясьці беларускую асьветную працу, але ня хочаце, каб гэтая асьвета была камуністычнай, то падпішэце“. Некатарыя з падпісаўшых гэтую паперу сяброў, даведаўшыся, што там гаворыцца аб зрачэньні ад Т. Б. Ш., як арганізацыі кіраванай камуністамі, прыслалі нам заяву аб тым, што яны здымаюць свае подпісы, застаючыся вернымі Таварыству, пакуль яно ёсьць арганізацыяй легальнай, і выражаючы давер і духовую лучнасьць з цяперашнімі кіраўнікамі Т-ва.

На паступаваньне мейсцовай паліцыі Галоўная Управа зложыла скаргу да п. Навагрудзкага Ваяводы, які абяцаў рассьледаваць гэтую справу запэўняючы, што адміністрацыя стоячы на грунце легальнасьці павінна тасавацца бесстаронна да паасобных беларускіх арганізацыяў.

---

# Беларускі спэктакль у м-ку Нягневічах.

Група студэнтаў-беларусаў Віленскага і Варшаўскага Унівэрсытэтаў супольнымі сіламі на другі дзень Вялікодных сьвятаў наладзіла прадстаўленьне ў м-ку Нягневічах, Навагрудзкага павету.

Беларускае прадстаўленьне ў Нягневічах не навіна. У 1926-29 г. г. гурткі Т. Б. Ш., якія былі запраўдным асяродзьзем беларускага культурна-прасьветнага руху ў Нягневічах, злучалі ўсіх беларускіх сялянскіх ін-

тэлігэнтаў да барацьбы за лепшую будучыню і развіцьце беларускай сьведамасьці і культурна-прасьветнай працы; поступ, які зрабілі ў гэтай галіне гурткі Т. Б. Ш., можна назіраць на кожным кроку грамадзкага жыцьця. Калі раней, напрыклад, да залажэньня гурткоў Т. Б. Ш. у Нягневіцкай гміне, частыя гулянкі вясковай моладзі, ў кожнай вёсцы асобна, рэдка прахадзілі без бойкаў, дык цяпер у м-ку Нягневічах на беларускія прадстаўленьні зьбіраецца моладзь з трох гмінаў, і што аднак годна ўвагі: яны ня думаюць ніколі аб братабойчай калатні. Вось дзе цуд!... А што на гэта ўплыло? Што было пачаткавым імпульсам да стварэньня такога, амаль што казачнага надзвычайнага захоўваньня нашай вясковай моладзі? На гэта ёсьць адзін адказ: глыбокая пашана і даверра, на якія заслужыла Т.Б.Ш. у Нягневіцкай ваколіцы, гамуе ўсе прыкрыя інстынкты нашай моладзі.

Прадстаўленьне, зладжанае студэнтамі, зьяўляецца нібы працягам цяжкай працы Т-ва. Бел. Школы, якое за час свайго істнаваньня патрапіла зладзіць у адным гмінным „магазыне" да 50-ці беларускіх спэктакляў, на якія кожны раз зьяўлялася ня меньш паўтысячы асоб.

Пасьля таго, як адміністрацыя завесіла ў нас гурткі Т. Б. Ш., на арэну пашырэньня беларускага тэатру выступіла Наваградзкая Беларуская Гімназія, якая хоць рэдка, за тое з вялікім пасьпехам, ладзіла спэктаклі і канцэрты. Пасьля таго, як Школьны Куратарыюм асобным загадам забараніў Гімназіі ўсялякія публічныя імпрэзы, нашы Нягневічы на працягу амаль-што паўтара году былі пазбаўлены беларускага тэатру.

Польскія і нават польска-беларускія прадстаўленьні, ладжаныя асаднікамі і тутэйшымі „прафэсарамі" пачатковых школаў, ніяк ня могуць прывабіць да сябе нашай беларускай вёскі, нашай сялянскай сярмяжнай моладзі.

На прадстаўленьне ў Нягневічах ад імя Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні дазвол дасталі ў найлепшым парадку; праўда, прыкра было хадзіць чатыры разы за 18 клм. у адзін канец да рэфэрэнта бясьпечэньства па дазвол. Але нічога не парадзіш. Нават добра было-бы, калі-б усё на гэтым і скончылась. Самае вялікае непаразуменьне пачалось пасьля атрыманьня дазволу. Як аказалася, пасьля нас атрымала другі дазвол на танцульку ў тым самым мейсцы і часе Пажарная Стража, старшыня якой камэндант пастарунку. Зноў прышлося дзень патраціць на беганіну, каб сабраць „Зажонд". Нарэшце яны сабраліся і па колькі мінутовай нарадзе зажадалі ад нас 15 прац. агульнага зыску. Гэта нас страшэнна абурыла, бо ўжо трэба было плаціць працэнты, апрача памешканьня і дэкарацыі, за штучна вытвараную стражацкім кіраўніцтвам сытуацыю; тут ахвярай зьяўлялась-бы наша бяднейшая студэнцкая моладзь, на карысьць якой ладзілась прадстаўленьне.

Натуральна, мы ад такой камбінацыі адмовіліся. Брыдка была глядзець адзін другому у вочы, бо здавалась нібы мы, студэнты, уласнымі рукамі разбураем культурную працу, на якой будуецца вялікая будучыня нашае Бацькаўшчыны. Нехта з нас падае думку схадзіць зноў да старшыні-камэнданта і спрабаваць узнавіць перагаворы, вынікам якіх на гэты раз было тое, што камэндант уступіў нам, як гасьцям, той самы дзень, на які мелі дазвол і калі можна было нешта зарабіць. Прадстаўленьне адбудзецца! Усё прыгатавана. Прыйшлі музыканты і разам з імі тыя настроі, якія так добра ведамы нам з гімназіяльнай лаўкі, калі мы адначасна бывалі і артыстамі, і рэжысэрамі, і суфлёрамі і усім, усім, з чым толькі бывае зьвязана сцэна.

Ня гледзячы на вецер, дождж і холад, моладзь і старыя грамадамі пачалі наплываць у азначаны час да „магазыну". Ахвота ўбачыць белару-

скае прадстаўленьне ўсё перамагла: не прайшло гадзіны, як 400 асоб апынуліся ў салі. Малайцы Падкасоўцы 5 клм. тапталі балота, а прыйшоўшы, каб не перашкаджаць іншым, прыслалі да касы дэлегата за білетамі для 17 асобаў. Пашана вам Падкасоўская моладзь!

Артысты тым часам—хто як умеў мазаўся перад люстэркам, а наш мастак Р. Л. напраўляў, дзе каторы трохі „перасоліць“.

Адыгралі „На поэтыцкай вышыні“, жарт у 2-х дзеях Я. Хвораста, нашага калегі. Выкананьне роляў было да падзіву ўва ўсіх драбностках надзвычай мастацкае: інтанацыя, міміка, гэсты, а і з імі разам і зьмест выклікалі цэлыя буры сьмеху сярод публікі. Па закрыцьці заслоны прысутныя доўга апладзіравалі, не шкадуючы спрацаваных далоняў. На асаблівую увагу заслугоўвае выкананьне ролі Марылі, якую ўзяла на сябе наша быўшая артыстка ў Нягневіцкай гміне А. Першукевіч-Жарская. Пасьля пьесы дэклямацыі: „Важная фіга“ і „Сабачая служба“, Ядвігіна Ш., стварылі нябывала вясёлы настрой у публікі, якая пад неастыўшым ўражаньнем ад пьесы зрабілася немагчымай, бо кожнае слова, як маланка, выклікала грымоты сьмеху.

Пасьля ўсяго, як артысты, так і моладзь закружыліся ў танцах пад прыгожую вясковую музыку. Прыемна... Добра!... Ува ўсіх на тварах — адбітак задаваленьня...

**Прысутны.**

# Суд над сябрамі Т-ва Бел. Школы.

У днях 1—4 лютага г. г. адбыўся ў Акружным Судзе працэс над прэзыдыюмам Т. Б. Ш. у асобах старшыні Ф Стэцкевіча, віцэ-старшыні М. Пяткевіча і сэкрэтара Г. Шырмы, сябрай Нагляднай Рады Ю. Саковічам, сябрай Дачаснай Паўнамоцнай Камісіі Церахом і грам. С Скуркай, які не зьяўляецца сябрам Т-ва. Усіх пералічаных абвінавачвалі ў стварэньні на грунце Т. Б. Ш. камуністычнай змовы з арт. 102, ч. I Карнага Кодэксу. Усіх трох сябраў прэзыдыюма Галоўнае Управы Суд апраўдаў, Цераха і Саковіча засудзіў на 3 гады турмы кожнага, а Скурку на 2 гады.

18 траўня па апэляцыі Пракурора адносна апраўданых і апэляцыях засуджаных, справа разьбіралася ў Апэляцыйным Судзе, які цалкам зацьвердзіў прысуд 1-ай інстанцыі. Пракурор заявіў, што хоча злажыць Касацыйную скаргу ў Найвышэйшы Суд.

# МАТУРА.

**Матуральныя экзамены** ў Віленскай Беларускай філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім Ю. Славацкага распачаліся 22 траўня г. г. Перад экзаменамі, як падае „Беларуская Крыніца“, была атрымана з Куратарыюм Вілен. Шк. Вокругу папера, што матура будзе адбывацца разам з польскай гімназіяй ім. Ю. Славацкага пад старшыньствам дырэктара гэтае гімназіі. Дзеля таго, што такая пастаноўка справы зьяўлялась бы фактычна ліквідацыяй Беларускасьці гэтай філіі, вучні загразілі забастоўкай і галадоўкай. Тады прадстаўнікі Бацькоўскага к-ту зьвярнулісь да Куратарыюм за высьвятленьнем гэтае справы і з дамаганьнем, каб матуральныя экзамены Беларускай філіі адбываліcь асобна ад польскай гімназіі. Як аказалася, вінавата была машыністка, якая штось неправідлова там надрукавала ў паперы да гімназіі. Цяпер матура адбываецца па беларуску ў сваім памешканьні.

# Да ўсіх сябраў і прыхільнікаў Т. Б. Ш.

Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы знаходзіцца ў сучасны момант у вельмі цяжкім матэр'яльным стане; брак грашовых сродкаў гамуе больш шырокую працу Т-ва. У зьвязку з гэтым Управа *Вяліка-Грынкаўскага* гуртка, Ваўкавыскага павету, заклікае усіх сябраў і прыхільнікаў ахвяраваць на гэтую мэту, хто сколькі можа.

Перасылаем свае ахвяры: А. Трахімік — 10 гр., А. Сахарчук— 20 гр., Я. Трахімік — 20 гр., Я. Акудовіч — 20 гр., Я. Верабей — 20 гр., А. Акудовіч — 10 гр., К Варонко — 10 гр., Х. У. — 50 гр., Ў. Крэўчык — 10 гр., Я. Мікіцік — 10 гр., А. Верабей — 25 гр., П. Гінч — 10 гр., М. Сахарчук — 10 гр., Я. Пільскі — 10 гр.

---

**Акружная Управа ў Беластоку** такжа „напамінае гурткам свайго павету аб абавязку зьбіраць складкі і ахвяры на карысьць Галоўнае Управы, апынуўшайся ў цяжкім матэр'яльным палажэньні".

---

**Ахвяры на выдавецтва Галоўнае Управы:** Паступіла ў Галоўную Управу—ад Касьцюка М.—1 зл., ад Шэнёўскага г-ка — 20 зл., ад Раманаўскага, Сьвіслацкай вол.—2 зл., N N — 15 зл., ад Нязбодзіцкага г-ка— 2 зл., праз Я. Салаўяна — 8 зл. 40 гр., праз А. Гвая — 5 зл. 70 гр., ад Раманаўскага г-ка, Ізабэлінскае вол. — 5 зл., ад Гарбачоўскага г-ка — 5 зл., праз Пісарчыка Тодара—3 зл., ад В.-Грынкаўскага г-ка—2 зл. 35 гр., ад сябраў Т-ва в. Шэні — 5 зл., ад прыхільнкаў Т-ва агульная сума — 27 зл. 30 гр.; **Разам — 101 зл. 75 гр.**

---

# Да беларускага грамадзянства.

Складайце ахвяры на культурна-асьветную працу. Нас многа і калі мы дружна адгукнемся, то будзем мець свае сталыя і часопісі і кніжкі ў роднай мове, дзеля папаўненьня бібліятэк-чытален. Мы самі павінны ратаваць сябе ад цемры, якая пануе на вёсцы, якая зьяўляецца спадарожніцай нацыянальнага заняпаду. Кожны, хто лічыць сябе Беларусам, павінен прылажыцца да пашырэньня роднае мовы і культуры. Ахвяры, хаця самыя скромныя, прысылайце ў Галоўную Управу, **Вільня, Боніфратэрская 2 — 3.**

---

# З жыцьця Беларускага Студэнцкага саюзу.

**Падзяка Тапільскаму гуртку Т-ва Беларускае Школы.**

Бел. Студ. Саюз у Вільні складае шчырую падзяку Тапільскаму г-ку Т. Б. Ш. за прысланыя нам грошы. Апошнія, у так цяжкія часы, зьяўляюцца для нас значнай матэр'яльнай дапамогай. Адно тое, што аб нас не забылася родная вёска, якая і сама сяньня жыве ў ня менш цяжкіх умовах, прыносіць нам вялікае духовае падтрыманьне. Мо недалёкая будучыня дасьць нам магчымасьць злажыць Вам большую ад гэтае падзяку. **Урад.**

**Падзяка Бел. Старэйшаму Грамадзянству ў Наваградчыне.**

Б. С. С. у Вільні шчыра дзякуе Старэйшаму Грамадзянству ў Наваградчыне за матэр'яльнае, а разам з тым і маральнае падтрыманьне Саюзу ў цяжкім для яго сяньня становішчы. **Урад.**

*** Хор Б. С. С. у Вільні пад кіраўніцтвам грам. Р. Шырмы мае замер у недалёкай будучыні зрабіць гасьцінныя выступленьні на правінцыі. На мэце маюцца два вокругі: Беласточчына і Горадзеншчына. Рэалізацыя гэтага замеру залежыць ад матэр'яльных варункаў Б. С. С. патрэбных на распачацьце аб'езду.

*** Б.С.С. 12-III 33 г. у салі Бел. філіі Дзяржаўнай гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні наладзіў канцэрт-прадстаўленьне. Адыграна новая рэч Я. Хвораста, камэдыя ў 2-х актах, „На паэтыцкай вышыні".

*** Б. С. С. дня 17-IV 33 г. наладзіў прадстаўленьне-вечарыну ў м-ку Нягневічах, Навaградзкага пав. Адыграна была камэдыя Я. Хвораста, „На паэтыцкай вышыні" і прадэклямаваны апавяданьні Ядвігіна Ш. „Сабачая служба" і „Важная фіга". Пасьля прадстаўленьня адбыліся скокі.

Адначасна Урад Б. С. С. у Вільні складае падзяку артысткам А. Першукевіч-Жарскай і Т. Гайко і ўсім прымаўшым удзел у арганізацыі прадстаўленьня.

*** Урад Б. С. С. паведамляе, што з дня 24-IV 33 г. Саюз месьціцца ў сталым памешканьні.

А д р э с: Wilno, ulica Bonifraterska, 2, m. 3. Białoruski Związek Akademicki.

# З Беларускага жыцьця за граніцай.

**У ЛАТВІІ** ў першы раз былі ўключаны ў канцертную праграму мужчынскага хору расейскага Т-ва „Баян" дзьве беларускія песьні, якія на жаданьне публікі, хору прышлося паўтарыць. Канцэрт адбываўся ў салі Латвійскае Консэрваторыі.

Міністэрства Асьветы друкуе для беларускіх школ у Латвіі **падручнік географіі** ў беларускай мове. Першыя тры аркушы з багатымі ілюстрацыямі ўжо выйшлі з друку.

Пазашкольная асьвета на вёсцы, здаецца, найболей інтэнсыўна вядзецца **Таварыств. Беларускае Моладзі у Латвіі,** якое мае каля 10 аддзелаў, арганізуе свае бібліятэкі-чыталні, ладзіць з пасьпехам тэатральныя пастаноўкі, як, напрыклад, Шушкаўскі аддзел адзначыў 50-я ўгодкі Я. Купалы пастаноўкай пьесы „Раскіданае гняздо". (Б. Ш. у Л. № 2, люты 1933 г.).

**У Б. С. С. Р.** У канцы 1932 г. Савецкая Беларусь налічвала 32 вышэйшых навуковых устаноў. Найважнейшыя з іх: Акадэмія Навук, Дзяржаўны Унівэрсытэт, Вышэйшы Пэдагагічны Інстытут, Вышэйшая Сельска-Гаспадарчая Школа, Інстытуты: Хіміка-Тэхнолёгічны, Плянова Эканамічны, Леса-тэхнічны, Вэтэрынарны, Энэргітычны, Тарфяны, Палітасьветны, Будаўнічы, Аўтадарожны, Мэханічна-будаўнічы, Водна-мэльёрацыйны, Садова-агародны і інш. У Менску адчыняецца Беларуская Дзяржаўня Консэрваторыя.

**Прысылайце падпіску, зьбірайце ахвяры, тады ня будзе перарыву ў выхадзе у сьвет часопісі.**

**Хто мае доўг за календары, павінен урэгуляваць безадкладна.**

Выдавец: Т-ва Бел. Школы. Адказны Рэдактар: Ф. Стэцкевіч.

Друкарня Е. Котлярэўскага. Вільня, Віленская вул. № 34 — 8.